ПРАЛЕТАРЫІ ЎСІХ КРАІН, ЯДНАЙЦЕСЯ!

# Літаратура і Мастацтва

Выдаецца з 1932 г.
№ 1 (2580)
ПЯТНІЦА
7
студзеня 1972 г.

ОРГАН МІНІСТЭРСТВА КУЛЬТУРЫ І ПРАЎЛЕННЯ САЮЗА ПІСЬМЕННІКАЎ БССР

ВЫХОДЗІЦЬ РАЗ У ТЫДЗЕНЬ НА ШАСНАЦЦАЦІ СТАРОНКАХ

Цана 8 кап.



У выставачнай зале Беларускай гандлёвай палаты адкрылася выстаўка «Фатаграфіка-71». Гэты здымак латвійскага фотамастака М. Узуліньша — ён называецца «Вясна» — адзін з некалькіх сотняў, прадстаўленых на выстаўцы. У падборцы «Па выставачных залах», якая друкуецца на стар. 10, мы знаёмім вас з работамі некаторых удзельнікаў гэтай цікавай выстаўкі.

## У НУМАРЫ ЧЫТАЙЦЕ:

 СЯРОД КНІГ СЯРОД КНІГ

# НА ШЛЯХАХ ГУМАНІЗМУ

Сапраўднае мастацтва заўсёды было прасякнута чалавечнасцю, вучыла людзей гуманізму. Эстэтычная сіла і дзейснасць літаратуры і мастацтва залежаць ад таго, наколькі поўна і глыбока выконваюць яны гэта пачэснае прызначэнне, наколькі цесна звязаны яны з інтарэсамі працоўнага народа, з ідэямі сацыяльнага прагрэсу.

Новая кніга Віктара Каваленкі, адзначаная пільнай увагай да глыбінных працэсаў развіцця беларускай літаратуры, да яе гуманістычнага ўзмужнення, да яе канцэптуальна-філасофскага пасталення, на наш погляд, з'яўляецца адметнай вехай у развіцці беларускага мастацтвазнаўства і тэорыі літаратуры.

Адметнасць кнігі перш за ўсё заключаецца ў тым, што яна—зместам і сутнасцю гаворкі — акрэслівае тыя аспекты ў развіцці беларускай літаратуры, паводле якіх больш поўна абазначаюцца яе сувязі з іншымі літаратурамі, са шляхамі развіцця грамадства.

Прыемнай рысай кнігі В. Каваленкі з'яўляецца цесны саюз літаратуразнаўства з філасофіяй. Менавіта сінтэз кваліфікаванага літаратуразнаўчага аналізу з філасофскім абагульненнем фактаў літаратуры — гэта той моцны тэарэтычны фундамент, на якім важка стаіць увесь каркас кніжкі.

Кніга вылучаецца лагічнай паслядоўнасцю аналізу. У В. Каваленкі — свой стыль, свой голас, свае назіранні і думкі. Аўтар кнігі выходзіць з таго, што «ўнутрана эстэтычныя прыкметы гуманістычнай літаратуры складаюць глыбокая праўдзівасць, дэмакратызм яе зместу і формы, свабодалюбства, партыйная і ідэйная накіраванасць», і спрабуе разглядзець гуманістычныя матывы ў беларускай літаратуры ў іх «канкрэтна-гістарычным вобліку». Гуманістычныя каштоўнасці мінулага разглядаюцца ў раздзеле «Гуманізм як традыцыя», на сучасным матэрыяле грунтуецца раздзел «Гуманістычная накіраванасць сучаснай літаратуры».

Ва ўступе даследчык слушна заўважае, што катэгорыя гуманізму — гэта «не толькі якасць, не толькі ідэйны, але і эстэтычны крытэрый мастацкага твора і літаратуры ў цэлым». Думка правільная і глыбокая. Шкада толькі, што В. Каваленка не спрабуе разгарнуць гэта палажэнне, не паказвае, з якімі катэгорыямі яно «супрацоўнічае», як яно суадносіцца з народнасцю, партыйнасцю, мастацкай праўдай, нарэшце, з эстэтычным ідэалам пісьменніка.

У пэўнай ступені, зрэшты, гэта кампенсуецца самім аналізам. Сапраўдная творчая ўдача спадарожнічае даследчыку там, дзе ён па-майстэрску прымяняе дыялектычны метад аналізу як для тэарэтычнай праблематыкі, так і для разгляду асобных фактаў і з'яў літаратурнага працэсу. Аднак В. Каваленка часам адступае ад свайго важнейшага метадалагічнага прынцыпу, і тады даследаванне страчвае ў глыбіні, вывады і палажэнні гучаць дэкларацыйна. І атрымліваецца гэта часцей за ўсё тады, калі парушаецца сінтэз філасофскага і літаратурнага аналізу. Так, на многіх старонках першага раздзела аўтар толькі дэкларуе свае агульнатэарэтычныя тэзісы і затым спрабуе адлюстраваць іх асобнымі літаратурнымі з'явамі. Пры гэтым і самі вывады, і аргументацыя не заўсёды грунтоўныя і дакладныя.

Вось В. Каваленка сцвярджае, што новая асаблівасць гуманізму Ф. Багушэвіча заключалася ў тым, што пісьменнік «стаў гаварыць ад імя селяніна» і гэта была «вышэйшая сацыяльная і эстэтычная аснова літаратурнай творчасці». Але выказана гэта думка, нам здаецца, не вельмі ўдала. «Ад імя селяніна» гаварыў і Дунін-Марцінкевіч. Даследчык потым і сам паказвае якасную розніцу ў гэтых адносінах паміж творчасцю Багушэвіча і Дуніна-Марцінкевіча («у Багушэвіча шырэйшы дыяпазон разумення народнага жыцця»), робячы тым самым асабліва відочнай недакладнасць у фармуліроўцы выходнага тэзіса.

Вымагае ўдакладнення і вельмі важны вывад аўтара, што датычыць ужо не асобнага пісьменніка, а вялікага гістарычнага перыяду развіцця нашай літаратуры. «Гуманізм беларускай літаратуры XIX ст., — піша В. Каваленка, — не склаўся яшчэ ў завершаную і разгорнутую філасофска-эстэтычную канцэпцыю» (стар. 35). Тут адным-двума абзацамі не адбудзеш, тут неабходна шырокая і поўная аргументацыя.

І яшчэ адна заўвага, якая датычыць таксама першага раздзела кнігі. В. Каваленка правільна даводзіць, што гуманістычны пафас дакастрычніцкай беларускай літаратуры паступова і неаслабна паглыбляўся і пашыраўся, набываў сапраўдную рэвалюцыйную дзейснасць, бескампраміснасць да прыгнятальнікаў і ўсёй сістэмы эксплуатацыі. Але даследчык грунтуе свае высновы на разглядзе толькі рэвалюцыйна-дэмакратычнай плыні беларускай літаратуры (і то бяруцца толькі асобныя выдатныя яе прадстаўнікі: Цётка, Купала, Колас, Бядуля). Увогуле, такая прынцыповая скіраванасць даследчыцкага зроку —правільная. Дзейсны рэвалюцыйны гуманізм прабіваў сабе дарогу як вызначальная тэндэнцыя, як галоўны, магістральны напрамак яе развіцця. Але побач жа дзейнічалі і іншыя, хай сабе другарадныя тэндэнцыі. Беларуская літаратура заглыбляла свой гуманістычны пафас у барацьбе не толькі з афіцыйна-рэакцыйнымі напрамкамі, але і з іншымі плынямі грамадскай і літаратурна-эстэтычнай думкі. Шкада, што даследчык іх абмінае. Праўда, аналіз асноўнага напрамку — рэвалюцыйна-дэмакратычнай літаратуры — змястоўны, шырыня і рознабаковасць яе гуманістычных інтарэсаў паказаны досыць выразна.

Сур'ёзны, багаты арыгінальнымі думкамі, назіраннямі і вывадамі атрымаўся другі, асноўны раздзел кнігі «Голас чалавечнасці», у якім гаворка ідзе пра ўзбагачэнне і паглыбленне сацыялістычнага гуманізму ў беларускай паслякастрычніцкай і сучаснай літаратуры.

Вялікі Кастрычнік разам са знішчэннем старога быцця прадаставіў сапраўдную свабоду чалавечай асобе, стварыў самыя спрыяльныя ўмовы для шматграннага развіцця і творчага росквіту чалавека. У процілегласць розным буржуазным тэорыям, якія трактуюць свабоду асобы як «абсалютную свабоду выбару» ці «свабоду мыслення», марксізм разглядае гэту праблему як частку агульнай праблемы развіцця грамадства, яго эканамічнай і сацыяльнай сістэмы. Свабода асобы не існуе без свабоды грамадства, і поўная свабода асобы магчыма толькі ў такім грамадстве, дзе, паводле Маркса і Энгельса, будзе гаспадарыць сапраўдны калектывізм.

В. Каваленка глыбока і пераканаўча паказвае, як сацыялістычны гуманізм выяўляецца ў ідэйна-мастацкіх асаблівасцях беларускай літаратуры 20—30-х гадоў. Даследаванне тут носіць не толькі глыбокі, але і рознабаковы характар. Характарызуючы новыя гуманістычныя якасці літаратуры 20-х гадоў, такія, як заклік да справядлівага жыцця, да росквіту чалавечай асобы, велізарную веру ў магчымасці новага чалавека, паказ працы як калектыўнага дзеяння і як выяўлення ўнутранай патрэбы ў калектыўным супрацоўніцтве наогул, В. Каваленка добра паказвае філасофскую і этычную аднабаковасць гуманістычных крытэрыяў некаторых твораў 20-х гадоў: пэўны максімалізм, эстэтычнае прыніжэнне будзённага побыту чалавека, што выцякалі са спрошчанага разумення дыялектыкі грамадскіх і асабістых інтарэсаў. Ён дае ў кнізе навуковае вытлумачэнне гэтым з'явам.

Асаблівую цікавасць выклікаюць старонкі, прысвечаныя развіццю беларускай літаратуры на сучасным этапе. І тут даследчык разам з аналізам значных мастацкіх каштоўнасцей, якія нясуць у сабе велізарны гуманістычны зарад (напрыклад, «Людзі на балоце» І. Мележа, творы М. Танка, П. Броўкі, В. Быкава, А. Адамовіча і інш.), раскрывае некаторыя супярэчнасці ў літаратурным працэсе, звязаныя часткова з абстрактнымі і надуманымі тэорыямі перыяду культу асобы, часткова з суб'ектыўнымі пралікамі ідэйна-мастацкага парадку асобных пісьменнікаў. Аналіз вядзецца цікава, арыгінальна, з палемічным агеньчыкам. І гэта вельмі добра, бо толькі тая думка крытыка можа знайсці дарогу да чытача, якая не толькі выверана яго аналітычным розумам і багатым інтэлектам, але і прапушчана праз гарніла пачуццяў—стала яго ідэяй, пафасам.

Многія думкі і меркаванні В. Каваленкі ў гэтым раздзеле выклікаюць роздум, з некаторымі можна не пагадзіцца і спрачацца. У нашым друку ўжо была слушная гаворка аб асобных спрэчных, хоць і арыгінальных характарыстыках, якія дае аўтар некаторым літаратурным вобразам (Міхала Тварыцкага і краўца з рамана К. Чорнага «Трэцяе пакаленне», Глушака з рамана І. Мележа «Людзі на балоце», Міхала з паэмы Я. Коласа «Новая зямля»). Пра гэта пісалі М. Ярош («Полымя», № 2, 1971) і А. Рагуля («Маладосць», №3, 1971), у рэцэнзіях на кнігу «Голас чалавечнасці».

Хацелася б звярнуць яшчэ ўвагу на прынцыпова важную тэарэтычную праблему абстрактнага гуманізму.

Вядома, што абстрактны гуманізм — у сваім вытлумачэнні агульначалавечага ў мастацтве — прыходзіць да прымірэння класавых інтарэсаў, прапаноўвае расплывістае і аморфнае ўяўленне аб грамадстве, маскіруе і замоўчвае барацьбу паміж класамі ў антаганістычным грамадстве. Творцы навуковага камунізма давалі рэзкі адпор падобнай балбатні «ліберальных і дэмакратычных слюнцяяў», іх заклікам да «добранькай філантропіі» замест матэрыялістычнага даследавання рэчаіснасці.

Сацыялістычны гуманізм — больш высокая ступень у параўнанні з папярэднімі формамі гуманізму. Ён прасякнуты прынцыпам камуністычнай партыйнасці. Ярчэй і паўней праяўляецца ён у канцэпцыі асобы, выпрацаванай нашым мастацтвам. Асоба, якая многа ведае і дзейнічае з веданнем справы, асоба барацьбіта і творцы новага жыцця, жыцця ў сапраўдным чалавечым калектыве, заснаваным на саюзе раўнапраўных, аб'яднаных адной мэтай людзей — такі адзін з важнейшых здабыткаў савецкага мастацтва. Гэты калектыў ліквідуе ранейшыя формы суадносін, названыя Марксам сурагатамі калектыўнасці.

В. Каваленка непрымірымы да абстрактнага гуманізму. Тым больш незразумелай здаецца яго палеміка з В. Чалмаевым, які ў адным з артыкулаў выступае супраць рэалізацыі агульначалавечага ў мастацтве «шляхам выключэння героя з асяроддзя, з характару, з абставін, з калектыву». Хіба ў гэтым разважанні сапраўды ёсць залішне катэгарычнае адасабленне, як сцвярджае В. Каваленка, «інтымных пачуццяў ад агульначалавечага, ад арсенала маральна-духоўнага багацця, уласцівага сацыялістычнаму грамадству»?

А ў цэлым добра, што даследчык вядзе размову аб беларускай літаратуры на ўсесаюзным фоне, што ён мысліць праблемна, што ў яго «актыўныя» ўзаемаадносіны з многімі крытыкамі і даследчыкамі.

На жаль, размова аб асобных недахопах сучаснага літаратурнага працэсу носіць часта агульны характар, аўтар чамусьці не называе канкрэтныя творы і імёны аўтараў.

Кніга Віктара Каваленкі ўзбагачае наша разуменне літаратуры. Пазначаная глыбокай распрацоўкай важных літаратуразнаўчых праблем, яна, безумоўна, заслугоўвае пільнай увагі даследчыкаў літаратуры і шырокага кола чытачоў.

**А. ПАЎЛОВІЧ,**
**выкладчык БДУ імя У. І. Леніна.**

В. А. Каваленка. «Голас чалавечнасці . Пра некаторыя гуманістычныя матывы ў беларускай літаратуры». Выдавецтва «Навука і тэхніка». Мінск, 1970.

# КАЛІ ПАТРАБАВАЦЬ АД ТЫХ, ХТО ПАТРАБУЕ

Цэнтральныя музычныя выдавецтвы не так ужо часта публікуюць кнігі маскоўскіх і ленінградскіх музыказнаўцаў пра творчасць беларускіх кампазітараў. Між тым, іх ацэнка ўяўляе безумоўную цікавасць. Нам, беларускім музыказнаўцам, якія ўвесь час у цэнтры падзей беларускага музычнага жыцця, многае бачыцца не так, як крытыку, які можа паглядзець на тыя ж падзеі «здалёку».

Маскоўскі музыказнаўца Л. Бергер апублікавала ў выдавецтве «Советский композитор» невялікую кніжку пра беларускага кампазітара Д. Камінскага. Гэта сціплая праца — усяго два друкаваныя аркушы — не прэтэндуе на шырыню ахопу і глыбокае раскрыццё творчасці аднаго з таленавітых беларускіх кампазітараў старэйшага пакалення. Не так даследаванне, як своеасаблівае даведачна-інфармацыйнае выданне, дзе пачатковыя старонкі прысвечаны кароткаму біяграфічнаму нарысу і некаторым агульнаэстэтычным пытанням, якія датычаць асаблівасцей творчасці Камінскага. Пералічаны ўсе асноўныя творы кампазітара, згрупаваныя па жанрах: канцэрты, сімфанічныя творы, камерна-інструментальная музыка для беларускага народнага аркестра, дзіцячыя фартэпіянныя п'есы, рамансы, песні і г. д.

Найбольш буйным і значным творам прысвечаны даволі падрабязныя аналізы-анатацыі. Тут Л. Бергер ужыла адзін вельмі цікавы прыём. Даўно вядома, як цяжка пісаць папулярную анатацыю, прысвечаную непраграмнаму сімфанічнаму або інструментальнаму твору. Маскоўскі музыказнаўца, аналізуючы канцэрты, сюіты, санаты, трыо Камінскага, знайшла ў вершах беларускіх паэтаў Ф. Багушэвіча, М. Багдановіча, Я. Лучыны, П. Глебкі паэтычныя радкі, якія адпавядаюць настрою і вобразнаму ладу тэм-мелодый беларускага кампазітара.

Так, напрыклад, расказваючы аб першай частцы Першага цымбальнага канцэрта Камінскага, Л. Бергер піша (стар. 17): «Жыццярадаснасць гучання музыкі нагадвае радкі Францішка Багушэвіча:

Эх, скручу я дудку!
Такое зайграю,
Што ўсім будзе чутка,
Ад краю да краю!
Ой, то будзе гранне...

Удала знойдзеная музычна-паэтычная паралель, несумненна, дапамагае зразумець вобразны лад і прыгажосць музыкі, якая льецца з-пад палачак цымбаліста.

Ва ўступным раздзеле кніжкі Л. Бергер дадзены некаторыя агульныя разважанні, якія датычаць музыкі Камінскага. На жаль, у канкрэтных аналізах яны не атрымліваюць пацвярджэння. Так, на стар. 9 сказана: «У музыцы Д. Р. Камінскага няма мастацкага выкрыцця сучаснага «зла», але ў найбольш значных творах адлюстраваліся ўнутраны драматызм псіхалагічных перажыванняў і сумныя трагедыйныя роздумы аб суровых выпрабаваннях, якія выпалі на долю беларускага народа ў гады Айчыннай вайны». Закранаючы ў далейшым гэтыя найбольш значныя творы, аўтар не прыводзіць прыкладаў «унутранага драматызму» і «сумных трагедыйных роздумаў», ад чаго важны тэзіс бяздоказна павісае ў паветры.

Л. Бергер, відаць, недастаткова ведае беларускія цымбалы, іх сучасны лад і мастацкія магчымасці. Жадаючы растлумачыць некаторыя асаблівасці ладатанальнай будовы цымбальных канцэртаў Камінскага, маскоўскі музыказнаўца піша: «Хоць па будове першая частка (соль-мажорнага Першага цымбальнага канцэрта.—**Л. А.**] — санатная, яе другая тэма гучыць у соль-міноры, у сілу таго, што мадуляванне на цымбалах мае свае цяжкасці з-за гучнага і доўгага гучання струн» (стар. 18). Няправільнае тлумачэнне. Сучасныя беларускія цымбалы поўнага храматычнага ладу даюць кампазітару багатыя гарманічныя і мадуляцыйныя магчымасці. Ніякіх цяжкасцей мадуляцыі з соль-мажору ў традыцыйны для падобных «санатных алегра» рэ-мажор тут няма. Тлумачэнне варта шукаць не ў гучнасці цымбалаў, а ў творчых імкненнях беларускага кампазітара. Камінскі, ахвотна звяртаючыся

Л. Бергер. «Д. Р. Каминский». Выдавецтва «Советский композитор», Масква, 1971.

# МЯДОВЫ КРАЙ

Яўген РАМАНОВІЧ

*З УСПАМІНАЎ*





ЗАХОПЛЕНЫ працай у тэатры, я не часта бачыўся з Андрэем Александровічам, проста не было калі. Спектаклі ставіліся ўжо не два дні на тыдзень, а штодня, шмат часу ішло на грамадскую працу, вучобу. Мы не чакалі, пакуль да нас прыйдуць, а самі «ішлі ў народ», расказвалі пра наш новы Беларускі дзяржаўны тэатр, папулярызавалі яго спектаклі, запрашалі на іх. Пасля рэвалюцыі людзі і самі цягнуліся да культуры, ведаў, мастацтва, да шырокага духоўнага жыцця.

Але калі з Андрэем мы сустракаліся рэдка, дык з ягонай сястрой Алесяй кожны дзень і па многа разоў, так што я ведаў, як жыве мой сябра, чым заклапочаны. Аднойчы яна мне сказала, што Андрэй, якога камсамол накіраваў па сваёй пуцёўцы ў Клімавічы, дабіваецца, каб летам наш тэатр прыехаў туды на гастролі. Андрэй працаваў там рэдактарам газеты, яго вельмі паважалі і цанілі. Вось Андрэй і надумаў, казала мне Алеся, запрасіць у гэтую глыбінку сталічны тэатр.

Недзе ў ліпені мы ўзялі свае чамаданы і клункі і рушылі ў «паход на Клімавічы». Ехаць у тыя часы было не лёгка, спалі на голых лаўках, не распранаючыся, падклаўшы кулак пад галаву. Па аднакалейцы поезд цягнуўся паволі, як бы намацваючы шлях. Усё яшчэ адчувалася ваенная разруха. На адным з перагонаў усе пазлазілі з паліц і пачалі трывожна ўглядацца ў вокны. Нехта сказаў, што драўляны мост, па якім трэба было праехаць («пранясі мяне, божа») можа абваліцца. І сапраўды поезд раптам сцішыў ходу і спыніўся.

Было душна, пасажыры павыскоквалі з вагонаў на высокі чыгуначны насып. Перад намі ў сваёй першароднасці адкрываўся нязвыклы далягляд. Над шырокім зялёным полем, як дах над эстрадай, вісела бялявае неба, а пад ім хмара. Але якая! Чорная, як раяль, з палымянай аранжавай палоскай па краі. Часам хмара расколвалася. Тады з яе змрочных глыбінь выляталі вогненныя каснікі маланак. Паволі нарастаў густы бас-прафунда цяжкага, як метал, грому, нібыта нехта заўзята лупіў па клавішах басовай актавы.

— Чаму мастакі не пішуць такое,—сказала Алеся, зачараваная гэтай грознай прыгажосцю.— Усё больш тое, што пад рукой...

Мы падышлі да паравоза і глянулі на высокі, складзены з бярвенняў стары, шэры мост, праз які нам трэба было ехаць. Пераступіўшы рэчку, ён стаяў, выгнуўшы гарбатую спіну над кручай.

З вакенца паравоза выглядаў чорны ад сажы машыніст, пыхкаючы тытунёвым дымком, і глядзеў на мост. Вось ён пацягнуў ручку свістка. Праз невялічкую трубку з чэрава машыны разам з парай вырваўся на прастору аглушальны рык, які прыцісну́ў нас да зямлі. Усе кінуліся ў вагоны. Цягнік рушыў з месца і ціхенька пайшоў праз мост. Мне здавалася, быццам стары асілак стагнаў, скардзячыся на свой цяжкі лёс.

Я залез на паліцу і хутка заснуў моцна, як малое дзіця, для якога мінула небяспека. Прачнуўся ад музыкі. Іграў духавы аркестр, з якога вылучаўся густы бас трубы. Але адкуль тут музыка? У тыя часы, вядома, радыё ў вагонах яшчэ не было. Ля адчыненага акна купэ стаіць Алеся і ўглядаецца ў станцыйныя пабудовы, якія паволі насоўваюцца на нас.

— Вы ўжо не спіцё, Жэня? — павярнулася яна да мяне.

— Не. Дзе мы?

— Уязджаем у Клімавічы.

— А што за аркестр?

— Ды вунь, бачыце, нас сустракае.

Сапраўды, на зялёным мокрым лужку каля вакзала стаяла басанож чалавек восем-дзесяць музыкантаў у наспех накінутых на плечы паліто, шынялях. Яны заўзята дзьмулі ў трубы, білі ў барабаны, грымелі талеркамі.

— Вунь ён, вунь Андрэй,—усклікнула Алеся, паказваючы рукою на платформу. Там у скуранои куртцы і высокіх бліскучых ботах хадзіў, ссунуўшы, як заўсёды, на патыліцу кепку, Андрэй Александровіч. Але павітацца з ім і пагаварыць мы змаглі толькі, калі селі ў машыну.

Стары, яшчэ дарэвалюцыйны аўтамабіль, гукнуўшы клаксонам, панёсся па дарозе, абганяючы аднаконныя і параконныя фаэтоны і калымажкі, што везлі ў горад маляўнічы табар акцёраў Беларускага тэатра. З шыкам абагнаўшы гэты даўгі картэж, на які, відаць, быў мабілізаваны ўвесь гарадскі транспарт, мы з боку цэнтральнай вуліцы раптам павярнулі ў нейкі ціхі завулак і ўрэзаліся амаль у гогалеўскую лужыну, расфантаніўшы яе шэрую каламуць. Спыніліся ля шырокага ганка драўлянай гасцініцы «Парыж». Дальбог такая шыльда вісела над яе ўваходам.

Да чаго ж у тыя нэпаўскія часы прыватныя гандляры любілі пышныя, замежныя назвы.

Цэлы дзень мы былі заняты, уладкоўваліся ў тэатральным будынку, рэпеціравалі. Так што, калі я вярнуўся ў гасцініцу, была ноч. Я лёг, але заснуць ніяк не мог. Пакруціўшыся з боку на бок, я падняўся і пайшоў прайсціся.

Горад спаў у водары хмяльнога паху мёду, які нібы вісеў у ціхім і цёплым ліпеньскім паветры. На плошчы ў адной з камяніц свяціліся вокны, відаць, там быў штаб гарадскога кіраўніцтва.

Мінуўшы невялічкі сквер, агароджаны цяжкім чыгунным узорам, я раптам убачыў знаёмую постаць Андрэя, які выйшаў з асветленага пад'езда белага будынка.

— Вось дык дзіва! Дзве гадзіны ночы, а ты не спіш, — усклікнуў ён, падыходзячы да мяне.

— А ты?..

— У нас была нарада ў райвыканкоме, меркавалі, як будзем праводзіць вашы гастролі.

— Ідзём, я цябе праваджу. Неахвота ў гасцініцу вяртацца. Брудна там.

— Дык пойдзем да мяне, мясцінка знойдзецца. У нашым доме чыста і ўтульна, інтэлігентная сям'я. Гаспадар—мой таварыш па рэдакцыі, слаўны дзядзька, мы з ім стварылі тут філію «Маладняка». І жонка ў яго цікавы чалавек, Арыядна Васілеўна. Толькі глядзі, не закахайся ў яе, небяспечная прыгажуня. Ідзём!

— Ды не, што ты?! У дзве гадзіны ночы! Непрыстойна,—запярэчыў я.

— Нічога, нічога! Арыядна Васілеўна ўжо, відаць, спіць, а яе Антоша, напэўна, у прэферанс жарыць, заўтра ж нядзеля. Ночы праседжваюць за картамі. Днём працуюць, пасля абеду паспяць крыху, а там зноў за пульку, асабліва пад выхадны... Тут людзі добрыя, працавітыя, любяць свой горад. Бачыш, чыста на вуліцах, навокал зеляніна, і старая, і маладая, піянерамі насаджаная.

Андрэй гаварыў, як заўсёды, крыху нараспеў. З кішэні яго скуранай курткі тырчала дула нагана. Я памацаў яго. Андрэй адвёў маю руку:

— Зараджаны.

— А што, хіба ёсць у ім патрэба?

— Ды не, не тыя часы, ціха. Так, для парадку.

Ціха размаўляючы, мы падышлі да невялічкага, ашаляванага зялёнымі дошкамі доміка, абсаджанага з трох бакоў старымі дрэвамі. Усю бакавую сцяну і ўваход займала веранда. Праз дробныя, рознакаляровыя шкельцы было відаць, як у тытунёвым тумане схіліліся над сталом чатыры мужчынскія постаці. Праз адкрытыя дзверы даляталі выкрыкі: «Сем пік! Мае пікі! Віст!».

Раніцою ўсе сышліся ў сталовай ля гарачага самавара. На стале ў маляўнічым нацюрморце былі масла, сыр, яйкі, вяндліна, мёд, пахла свежым хлебам. Частавала простая пажылая кабета ў паркалёвай сукенцы і пярэстай хустцы на галаве. З яе крыху затуманеных гадамі шэрых вачэй свяціла дабрыня і гасціннасць. Маладая гаспадыня ў квяцістым лёгкім сарафане то прысаджвалася да стала, то знікала. Арыядна Васілеўна злавалася, што яе муж Антоша адсыпаецца ад начных баталій і не хоча ўставаць.

Яна сапраўды была прыгожая. Гнуткая, як дубец, маладая жанчына зачароўвала бляскам вачэй. Добра дагледжаныя пышныя цёмныя валасы, нібы шалом, прыкрывалі скульптурны твар. Яна і вабіла і насцярожвала нейкім падкрэсленым артыстызмам паводзін. У параўнанні з ёю Алеся была, як рамонак каля ружы. Яе па-дзіцячы шчыры твар палымнеў светлай усмешкай. У вачах, як у крыштальна чыстых дыяментах, бліскалі промні ўнутранага святла, дзявочай непасрэднасці.

— Ці ж не праўда, Алеся, ваш брат пасвяжэў і паправіўся?

— Я яго паю казіным малаком з мёдам.

— Праз соску, — надзьмуўся Андрэй.

— Па-мойму, яму не пагражае таўшчызна, — усміхнулася Алеся. — Ён заўсёды будзе хударлявы, такі характар.

— Куру многа, — адазваўся Александровіч, усеўшыся на падаконнік. Ён паснедаў ужо і пускаў дым на двор. — Але курыць кіну, як толькі ажанюся.

— Чаму? — здзівілася Арыядна Васілеўна.

— Каб не псаваць жонцы існавання.

— Вось гэта міла, такая самаахвярнасць. Чалавек жыве для сваіх жаданняў. Чым іх менш, тым бліжэй да старасці, — задумліва мовіла Арыядна Васілеўна.

— Чаму вашага мужа завуць Антоша, як маладога Чэхава?—спытаў я Арыядну Васілеўну, калі яна праходзіла побач.

— Гэта я яго так празвала, а за мною і ўсе знаёмыя. Я вельмі люблю Чэхава, Антоша ў нечым мне яго нагадвае, хаця я мелася выйсці замуж за іншага... У маім жыцці ўсё так! Думала паступіць у архітэктурны інстытут у Петраградзе, але захварэла, прапусціла экзамены і вымушана была пайсці ў педагагічны, бо там былі вакансіі. І вось зараз пакутую...

# ЦІ МОЖНА ВЫНАЙСЦІ ВЕЛАСІПЕД?..

*НАТАТКІ З ВЫСТАЎКІ ТВОРАЎ ДЫЗАЙНЕРАЎ У ВІЛЬНЮСЕ*

У канцы мінулага года ў Вільнюсе працавала справаздачная выстаўка дызайнераў Вільнюса. Экспанаваліся макеты, доследныя ўзоры, фатаграфіі інтэр'ераў, макетаў гатовых прамысловых і доследных узораў, створаных мастакамі - канструктарамі вільнюскага філіяла Усесаюзнага навукова-даследчага інстытута тэхнічнай эстэтыкі. Літоўскія дызайнеры робяць прыкметныя поспехі ў сваёй рабоце над фарміраваннем вытворчага асяроддзя, у формаўтварэнні абсталявання і прыбораў, у распрацоўцы колернага клімату.

Дызайнер заўсёды рашае двайную задачу — сацыяльна - камунікатыўную і эстэтычна-культурную. Літоўскія дызайнеры разумеюць свае задачы. Вырашэнне прамысловых інтэр'ераў, камунікацый на вытворчасці, арганізацыя заводскіх тэрыторый, стварэнне зон адпачынку, азеляненне тэрыторыі — усё гэта арганізавана ў комплексы і радуе вока чалавека, памагае яму ў рабоце.

Асаблівую ўвагу аддаюць дызайнеры Літвы пляцоўкам і зонам адпачынку. Адна з галоўных дэталей у зоне адпачынку ў літоўскіх дызайнераў — басейн. Дзякуючы дэкаратыўнаму акайміванню з дзікага каменя, жалезабетону або каляровых цэментаў, а таксама азеляненню, воднае люстэрка выглядае, як высокамастацкі элемент унутрызаводскай або перадзаводскай тэрыторыі. Часта ў басейне ўстанаўліваецца дэкаратыўная скульптура, якая яшчэ больш садзейнічае стварэнню прыгажосці і ўтульнасці. Так зрабілі на Алітускім машынабудаўнічым заводзе. Фантаны з выкарыстанай для тэхнічных патрэб вады дадаткова ўпрыгожваюць зону адпачынку на Вільнюскім станкабудаўнічым заводзе імя 40-годдзя Кастрычніка. Дэкаратыўнае пакрыццё пляцовак адпачынку плітамі з каляровага жалезабетону з прамежкамі ў 10—20 сантыметраў, засеянымі травой, таксама стварае дэкаратыўны эфект. Вялікае значэнне надаюць літоўскія дызайнеры азеляненню вытворчай тэрыторыі.

Прыкметныя ўдачы мастакоў-канструктараў Літвы і ў комплексным вырашэнні прамысловых інтэр'ераў, бытавых служб, сталовых на вытворчасці. Умела ўводзяць яны дэкаратыўныя элементы ў інтэр'еры (чаканка, вітражы, рашоткі ў спалучэнні з драўлянымі дэкорамі).

На выстаўцы прадстаўлены два станкі работы мастака - канструктара А. Лусіса. Абодва зубафрэзерныя, адзін з іх універсальны, другі дробнамодульны. І абодва выкананы ў адзінай гаме, у адрозненне ад сваіх прататыпаў. Формы іх строга геаметрычныя з прапорцыямі, што сведчаць пра добры густ аўтара. Тонкая нюансіроўка афарбоўкі падкрэслівае сучасны выгляд канструкцый. Матавыя і паўматавыя эмалі мяккіх шэра-блакітных таноў добра рысуюць прастораныя формы станкоў, храмаваныя і нікеляваныя дэталі надаюць ім прыгожы выгляд, узбагачаючы іх блікамі святла. Удалы выбар пульта кіравання, добрая аглядкасць ствараюць дадатковыя зручнасці ў рабоце.

Профілешліфавальны станок мастака-канструктара А. Лігевікуса робіць уражанне сваёй строгай дакладнасцю форм, якія свабодна развіваюцца ў прасторы. Нягледзячы на мноства розных па масе дэталей, станок выглядае суцэльным і ўстойлівым. Дакладна выкананы графічныя сімвалы пульта кіравання і эмблемы.

Вельмі наглядны прыклад паляпшэння эстэтычных якасцей аб'екта шляхам мадэрнізацыі паказвае намотачны паўаўтамат, выкананы мастаком - канструктарам В. Ласкаўскасам. Прататып прадстаўлен побач на фатаграфіі і ўяўляе сабой хаатычнае нагрувашчванне дэталей, сяк-так сашрубаваных адзін з адным — толькі б працаваў. Пасля распрацоўкі мастаком-канструктарам, станок набыў прос-

# ВЯСЁЛАЯ ТРАСЯНКА

**ЖАРТЫ, ГУМАРЭСКІ, ПАРОДЫІ, ЭПІГРАМЫ, ШАРЖЫ**

**Уладзімір РУДЗІНСКІ**

*БАЙКА*

## ЦІМОХАВА ГАСЦІННАСЦЬ

**Запрасіў Цімох
Сцяпана
ў рэстаран:
«Хочаш, братка,—
закажу гарэлкі збан —
Я не скнара,
і ў кішэні грошы ёсць...
Як-ніяк —
ты ж у мяне
сягоння —
госць.
Пагамонім,
павячэраем удвух.
Каб ты ведаў:
у цябе —
гасцінны друг».
...Вось размова за сталом ужо
ідзе.
Як пчаліны вулей,
зала ўжо гудзе...
«Будзь здароў,
Сцяпан!»
«Здаровы будзь,
Цімох!
Добра ж ты мяне частуеш,
далібог...»
І кульнулі
мо па пятай
дружбакі;
Праглынулі
заліўныя языкі.
Па біфштэксу з'елі хлопцы,
па рагу.
«Ой,
Цімоша,
я ўжо болей не магу
Столькі выпіць,
столькі з'есці —
хто б тут змог!..»
«Я таксама»,—
перабіў яго Цімох.
І сказаў ужо Сцяпану
на хаду:
«Пачакай мяне —
я хуценька прыйду»...
Мо' гадзіну,
а мо' дзве
Сцяпан чакаў.
А Цімох!
Дамоў сабе пашыбаваў.
Добра,
што Сцяпан меў грошы,
а не так...—
Бо інакш —
хоць ты закладвай
свой пінжак.
...А назаўтра,
гэта праўда —
не падман, —
Запрасіў Цімох...
Дзям'яна ў рэстаран...**

□

**Мараль:
Нядобра,
калі жлукцяць без мяжы.
А яшчэ горш —
калі за кошт чужы.**

САМААБСЛУГОЎВАННЕ




Мал. Ю. ГРЫГОР'ЕВА.

**Я. ІВАНОЎ**

## ПЛЫВЕЦ

— Каго гэта хаваюць?

— Плыўца аднаго... Утапіўся.

— Як гэта, ён — плывец і... утапіўся?

— Ды ён не такі ўжо і плывец...

— Не разумею.

— Прасцей простага...

— Раскажыце.

— Прыехала тут да нас у горад адна шышка са сталіцы. Ну, як заведзена, правялі сходзец, нагаварыліся ўдосталь, а потым той, са сталіцы, захацеў купацца... Так усім гуртам і рушылі на раку — хто мог плаваць і хто не ўмеў.

— Дык, хто ж утапіўся? Можа той, са сталіцы?

— Шышка? Не-е, ён не ўтопіцца, мужчына здаравенны, кажуць спартсмен нават, усімі стылямі навучыўся плаваць... Утапіўся наш, дырэктар гарадской лазні.

— Як жа здарылася?

— Вельмі проста. Шышка ў ваду—і ўсе за ім: хто ўмеў плаваць і хто не ўмеў... А наш, кажуць, ва ўласную ванну баяўся залазіць. Шышка на той бераг пераплыла і махае рукой, астатніх кліча, саромiць. Ну, наш, доўга не думаючы, і сігануў у раку... Відаць, рашыў: чым тварам у гразь, лепш у ваду! Траіх уратавалі, а ад яго толькі бурбалкі пайшлі...

## ВЕТЛІВЫ

НЕ, вы паслухайце, да чаго няўважлівыя людзі ў нас! Ездзіў я ўчора за горад на рыбалку... У аўтобусе — таўхатня. Столькі набілася людзей, нібы тых селядцоў у бочцы. Ну я, гэта самае, неяк праціснуўся на сярэдзіну, стаў і ціхенька чакаю свайго прыпынку. І раптам... А божачка мой, аж цяпер у вачах цёмна, як успомню. Не, кажу вам, гэта трэба самому адчуць, словам тут не перадасі: як наваліцца нехта мне на нагу, ну, нібы баба-капёр апусціўся... Ад болю сэрца сціснулася, крычаць хочацца, лаяцца, але я — чалавек ветлівы.

— Грамадзяне, нагу адціснецеl

А грамадзяне — хоць бы што. Мяне ўжо нават пот прашмае: паспрабуй, разбярыся, хто з іх на маёй назе ўладкаваўся... Бачу перад сабой нахабны чырвоны карак пад капелюшом. Да яго:

— Злезьце з нагі, а то я, гэта самае...

Павярнуў ён свой качан да мяне, паглядзеў, нібы на мурашку якую, і, нарэшце, саступіў-такі з нагі. Зрабіў паслугу! Ну, думаю, цяпер прасіць прабачэння будзе. Павінен, як культурны чалавек! Яшчэ і паспачувае... Толькі дзе там! Свіння свінням і застанецца. Нават слоўца ад яго не пачуў!

Затое ж, як выходзілі з аўтобуса — я яму паказаў... Нібы незнарок я-ак садану па костачцы чаравікам! Будзе ведаць... Такіх ветлівасці вучыць трэба!

**Я. ГЕРЦОВІЧ**

## ЦІ МАЛА ШТО КАЖУЦЬ...

Кажуць,
Хто дрэўца адно пасадзіў,—
Не змарнаваў ён жыццё.
Кажуць,
Хто ўзгадаваў чалавека, —
Не дарэмна на свеце жыў.
Кажуць,
Хто адшукаў крыніцу, —
Не лішнім быў на зямлі.

Іван КАЛЕСНІК

**Не знаю:
Мо' праўда, а можа і не—
Кажуць,
Да Каспія Волга імкне.**

**Кажуць,
Каню да спадобы авёс.
Кажуць,
Камар да слана не дарос.**

**Кажуць, што брата
Каін забіў.
Кажуць, што добра
Ён, мусіць, зрабіў,
Бо думкі чужыя
Авель любіў.**

## ДА ВЕДАМА ПАЖАРНІКАЎ

Не хацеў бы я чуць ад цябе,
Што і нам давядзецца старэць.
Лепей зараз жа,
тут жа,
цяпер
Ад кахання згарэць.

Раман ТАРМОЛА.

**Дужа добра, што нас
Папярэдзіў пясняр:
Можа гуртам удасца
Заліць той пажар.**

## МІМАХОДЗЬ

**І. БРАЛКО**

● *Агранам працаваў паводле прынцыпу: хоць трава не расці.*

**Р. ЛАЗУРКІН**

● *Не заўсёды задума аўтара дасягае мэты. Здараецца, што чытач пралівае слёзы над камедыяй і хапаецца за бакі ад смеху, чытаючы трагедыю.*

**А. ПРАНІШНІКАЎ**

● *І ў салаўя можа ламацца голас.*

**У. ТРАЦЦЯКОЎ**

● *Разнавіднасць індывідуальнасці: у кожнага свой, непаўторны набор забабонаў.*

● *Прырода не церпіць прастаты.*

● *Заяц стаяў за поўную справядлівасць сярод звяроў: каб ніхто нікога не еў, а моркву —дзяліць пароўну.*

● *Слава вырвала з нашых шэрагаў...*

## З ПАДСЛУХАНАГА

### ПРЫРОДА, ПРЫРОДА...

— Гавораць, у нашым лесе браканьеры адчуваюць сябе надта няўтульна.

— Ды там жа засталіся адны галодныя ваўкі.

□

— Цяпер у лесе птушкам не да спеваў.

— А чаму?

— Іх заглушаюць адпетыя хуліганы.

□

— Раней у нашай рэчцы вадзілася смачная рыба, з'ясі — пальчыкі абліжаш.

— А цяпер?

— З'ясі, але пальчыкі не адмыеш — хіміяй патыхае.

Запісаў Р. БОХАН.

**Уладзімір ЛЯВІЦКІ**

### КРЫТЫЧНАЯ АСОБА

Не жаў, не сеяў, не араў —
Адно ўсіх сам
крытыкаваў.

### АСА І ЯЕ МАРАЛЬ

Калегу муху раскрытыкавала
За тое, што яна не мела джала.

**Павел ЛАРЫН**

### МУЗЫКАЗНАЎЦА

З усіх мелодый любіць ён
бакалаў, шклянак
тонкі звон.

Пераклаў з украінскай
Васіль ТКАЧОЎ.

## З ФРАНЦУЗСКАГА ГУМАРУ

**Жан заходзіць да гандляра сабакамі, выбірае самага лепшага, плаціць і, ужо збіраючыся выходзіць, пытае:**

**— Вы павінны ведаць, сабакі гэтай пароды верныя гаспадару?**

**— Яшчэ б мне не ведаць, — адказвае гандляр. — Я гэтага сабаку прадаю ўжо трэці раз.**

□

**— Паслухайце, афіцыянт, вы палічылі мне тры франкі за гарчыцу, а я яе амаль не браў!**

**— О, гэта памылка, мсье. Калі вы амаль не бралі, то гэта каштуе пяць франкаў. Тры франкі—гэта калі вы яе зусім не бралі.**

□

**Аліўе сустракае на вуліцы немаладога чалавека.**

**— А, гэта ты, Дзюран! — радасна ўсклікае ён. — Як ты змяніўся! У цябе былі такія прыгожыя валасы, а цяпер ты зусім лысы! Ты быў стройны, а цяпер стаў таўсцяком! Ты быў высокі, а цяпер нейкі маленькі! Як жа ты змяніўся, Дзюран!**

**— Прабачце, мяне завуць не Дзюран, а Дзюпон.**

**— Не дзіва, што ў цябе нават прозвішча змянілася!**

□

**Дзесяцігадовы Жэрар, як усе хлопчыкі, вельмі любіць спорт. Аднойчы, захапіўшыся гульнёй у хакей, ён прастыў і захварэў. Маці мерае яму тэмпературу.**

**— Колькі, мама?—пытае Жэрар.**

**— 40,1.**

**— Гэта многа, мама?**

**— Вельмі многа, сынок.**

**— Здорава!—усклікае Жэрар і з хваляваннем пытае: — А рэкорд — гэта колькі, мама?**

□

**Веласіпедыст, які ехаў на вялікай хуткасці, збіў жанчыну.**

**— Ну, мадам, — сказаў ён, дапамагаючы ёй падняцца, — лічыце, што вам вельмі пашанцавала.**

**— Як вы можаце так гаварыць? — абурылася жанчына.**

**— Ды бачыце, мадам, звычайна я ваджу пяцітонны грузавік.**

Пераклала з французскай Э. ІОФЕ.

**Па тэхнічных умовах унутраныя восем старонак газеты друкуюцца і выпускаюцца асобна ад васьмі знешніх. Атрымаўшы або набыўшы газету, укладзіце ўнутраныя аркушы ў знешнія.**

**«Литература и искусство» — орган Министерства культуры и правления Союза писателей БССР. Минск.**

**«ЛІТАРАТУРА І МАСТАЦТВА»**

**Выходзіць па пятніцах.**

**Ордэна Працоўнага Чырвонага Сцяга друкарня выдавецтва ЦК КП Беларусі.**

Індэкс 63856 АТ 03011

**Адрас рэдакцыі: Мінск, вул. Захарава, 19.**

**Тэлефоны: прыёмнай рэдакцыі—33-24-61, намесніка галоўнага рэдактара—33-25-25, адказнага сакратара—33-44-04, аддзела літаратуры—33-22-04, аддзела тэатра, кіно і музыкі—33-24-62, аддзела выяўленчага мастацтва, архітэктуры і вытворчай эстэтыкі — 33-24-62, аддзела публіцыстыкі — 33-24-62, аддзела культуры—33-21-53, выдавецтва —32-22-19, бухгалтэрыі—32-15-87.**

Рукапісаў рэдакцыя не вяртае.

**Галоўны рэдактар Л. Я. ПРОКША.**

**Рэдакцыйная калегія: З. І. АЗГУР, А. Ц. БАЖКО (намеснік галоўнага рэдактара), Б. І. БУР'ЯН, А. І. БУТАКОЎ, А. С. ГРАЧАНІКАЎ, Ю. П. ГРЫГОР'ЕЎ, К. Л. ГУБАРЭВІЧ, І. М. ДАБРАЛЮБАЎ, В. У. ІВАШЫН, А. С. КАЗЛОЎСКІ, П. М. МАКАЛЬ, У. Л. МЕХАЎ (адказны сакратар), Р. К. САБАЛЕНКА, І. А. САНКОВА, М. Г. ТКАЧОЎ, Ю. М. ЧУРКО, Р. Р. ШЫРМА.**